Opłate pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 29 — Вільня, Чацьвер, 28-га кастрычніка 1926 г. — Год I.

**По загаду камісара ўраду на м. Вільню з 27 кастрычніка сканфіскаваны № 28 „Народнае Справы“ за перадавіцу „Першыя Вынікі“.**

## Зьвяга ня спыняецца.

Мы ўжо выясьнялі справу забойства шпіка Івашкевіча былым сябрам „Грамады“ Юдзёнкам, скатаваным перад тым нялюдзка ў паліцэйскай катоўні. Ня гледзячы на гэта, кожын дзень буржуазная прэса падае ўсё новыя „факты“ такога-ж роду. Так „Słowo“ і „Dziennik Wil.“ надовячы падалі вестку з Маладэчанскага павету—сьвядома ілжывую, быццам нейкага Казіміра Сэрафімовіча з вёскі Глінянкі, Гарадоцкае гміны, тамтэйшыя грамадзісты прымушалі запісацца ў гурток, а як той адмовіўся, дык спалілі ягоную пуню з дабром. У сувязі з гэтым паліцыя быццам арыштавала сэкрэтара гуртка, Янку Дразда, які „не пасьпеў уцячы“. — Вось-жа ўсё гэта ад першага да апошняга слова—брахня: Сэрафімовіч—паляк, уласьнік трох валок зямлі, яўны і выразны вораг усяго беларускага ды працоўнага, і толькі фантазія панскіх наймітаў з „Słowa“ і „Dzien. Wil.“ магла жадаць уваходу такога чалавека ў гурток! Пажар у яго пуні ўзьняўся ад таго, што сын Сэрафімовіча, вярнуўшыся п'яны з кірмаша, зацярушыў усярэдзіне агонь. Дразда, як грамадзіста, паліцыя, праўда, памыкалася прычапіць да гэтае справы, але ўраз-жа выпусьціла, сцьвярдзіўшы яго „alibi“ (знача, ён там ня мог быць у мамэнт выбуху пажару). Што-ж да „непасьпеньня ўцячы“, дык ён, як нявінны, і ня думаў уцякаць, дый пасьля звальненьня не ўцякае!

Мы падробна асьвяцілі гэты „факт“, каб даць меру ўсіх гэных прэсавых закідаў, якія што-дня робяцца „Грамадзе“. Тут, гаворыцца і аб „раздачы аружжа“ гуртком, толькі неяк нідзе ня злоўленага... Тут і „баечныя“ сумы бальшавіцкіх грошаў, якія нейкім таёмным чынам здалеў бачыць і палічыць сам рэдактар „Słowa“! Тут і „стратэгічнае разьмяшчэньне“ гурткоў—на выпадак вайны... Тут, урэшце, і „падгатоўка паўстаньня“, якое „Dzien. Wil.“ вызначае на дзень 1-га мая 1927 году,—дзень сусьветнага Сьвята Працы!

Ведама, калі-б істнаваў хоць нейкі цень праўды ў-ва усім гэтым, дык ня было-б патрэбы паном Обстам, Цатам і Борам так „працаваць“, выдумляючы розныя „факты“ кшталтам пададзеных. Але „факты“ гэныя такога роду, што ніякі суд ня можа пабудаваць на іх хоць болей меней праўдападобнага абвіненьня.

Падаючы да агульнага ведама агідныя мэтады польскае буржуазнае прэсы ў барацьбе з арганізованым беларускім рухам, мы йшчэ раз заклікаем беларускіх сялян не паддавацца страху, а на ўсю гэную зьвягу адказаць далейшай працай над арганізацыяй сваіх сіл. Сіла арганізаванае масы—найлепшая гарантыя нашых правоў і нашае волі.

## Перамога сялянска-работніцкае ідэалёгіі.

Пад той час, як розныя служкі буржуазіі стараюцца разьбіць створаны „Грамадой“ адзіны фронт сялян і работнікаў у Заходняй Беларусі,—братні нам украінскі народ, які жыве пад Польшчай у аднолькавых з намі варунках, узыйшоў на пракладзены намі шлях еднасьці працоўных вёскі і места. Дзьве найпаважнейшыя ў Заходняй Украіне сацыялістычныя партыі: Украінскі Сялянскі Саюз і работніцкая „Народная Воля“—злучыліся ў-вадно і стварылі адну **супольную арганізацыю сялян і работнікаў пад назовам: „Украінскае Сялянска-Работніцкае Сацыялістычнае Аб'яднаньне“** (скарочана—„Сел.-Роб.“).

Гэтак узмацняюцца рады актыўных барацьбітаў за правы і волю Украінскага народу. Гэтак жыцьцё красамоўна пацьвярджае правільнасьць таго шляху, па якім ідзе сучасны беларускі адраджэнскі рух.

Дык шчыра вітаем украінскіх „сель-робаў“ і жадаем ім удачы ў іх далейшай працы й змаганьні, бачучы ў еднасьці працоўных залог іх перамогі.

## Адозва.

Масавы рост Беларускае Сялянска Работніцкае арганізацыі ўзварушыў буржуазію, якая, бяз розніцы кірункаў, у сваей прэсе павяла энэргічную атаку на Грамаду, заклікаючы Урад да парушэньня Канстытуцыі і разгрому нашае легальнае партыі. Усялякага роду вывядоўцы і правакатары кружацца каля арганізацый Грамады на мяйсцох, стараючыся пралезьці ў партыю, справакаваць яе і вызваць на якія-сь нязгодныя з тактыкай партыі выступленьні. Наш адказ на гэта: арганізацыя, аб'яднаньне, дысцыпліна. Толькі самкнуўшы цесна свае рады і моцныя сваей вытрыманасьцю мы адаб'ём кожную атаку варожых нам сіл. Толькі ў цеснай сувязі між паасобнымі Гурткамі і Гурткоў са сваім Павятовым Камітэтам—сіла і карысьць у працы. Ніякіх сэпаратных шагоў! Усіх правакатараў і вывядоўцаў гнаць ад сябе як найдалей; асабліва зьвяртаем на гэта ўвагу прыгранічных Гурткоў. Перамагае заўсёды той, хто мае сталёвыя нэрвы, вытрыманасьць і ўмее захоўваць халодную кроў. Нам у сучасны момант трэба мець як можна больш спакою і сілы, каб адкінуць усе бязглуздыя нападкі на Грамаду з боку нашых ворагаў.

**Вялейскі Павятовы Камітэт**
**Белар. Сял.-Раб. Грамады.**

20. X. 1926 г.

## Крывадушнасьць пэпэсаў.

На сходзе Галоўнай Рады П. П. С. (Польскай Партыі Сацыялістаў) прынята палітычная рэзалюцыя, у якой партыя востра крытыкуе ўрад...—можа хто падумае: сучаснага прэм'ера Пілсудскага?! —Не, барані, Божа: ўрад Бартля, якога **ўжо няма**. Запраўды-ж—„палітычная“ рэзалюцыя!.. Ня кажа толькі рэзалюцыя аб тым, што ўсе нястачы ўраду Бартля—ў дзесяць разоў павялічаны ўрадам марш. Пілсудскага...

„Урад Бартля, — адважна б'е па нябошчыку рэзалюцыя пэпэсаў—страшэнна распусьціў капіталістычную рэакцыю і клерыкальны лагер у Польшчы“... А ўрад „правадыра ППС“ Пілсудскага — ці-ж ён зьменшыў колькасьць абшарніцка-рэакцыйных міністраў і ўплывы капіталізму ў Польшчы?!

„Урад Бартля не распусьціў Сойму і тым — наадварот—дапусьціў страшэнную фашыстаўскую прапаганду ў краі і аслабленьне дэмакратыі“! — лаюць сьмелыя пэпэсы нябошчыка Бартля... А ўрад Пілсудскага, паночкі, — дык, відаць, адразу паправіў усе гэтыя „палітычныя абмылкі“ Бартля?..

„Добрай працай ураду“ рэзалюцыя прызнае— „чыстку войска, фінансаў, асьветы і адміністрацыі ад рэакцыйных процідзяржаўных элемэнтаў“, — чаго пэпэсы „спадзяюцца і надалей“ ад ураду Пілсудскага... Але-ж Пілсудскі ўвёў у склад ураду такіх яркіх прадстаўнікоў рэакцыі, як — Мэйштовіч і Незабытоўскі...

Галоўнае пытаньне, дзеля якога, здаецца, сабралася ўся Рада (ўваход у склад ураду—побач з трыма абшарнікамі!—„таварыша“ Морачэвскага) —Рада вырашыла таксама — „палітычна“: „Морачэвскі ня вяжа партыі, а партыя не адказывае за Морачэвскага“...—Вось яна „партыйная карнасьць“ слаўнай ППС...

Да ўраду Пілсудскага ППС будзе адносіцца „рэчова“, да міністраў яго—манархістаў-абшарнікаў—таксама...

Далей ідзе—рад дамаганьняў ППС ад новага ўраду. Пералічаць іх нявартa.—Найлепш увесь іх фальш характэрызуецца тым, што, напрыклад, — „выкананьня зямельнай рэформы“ ППС „трэбуе“ ад ураду, зложанага з 3—4 вялікіх абшарнікаў ды з рэшты—малых... А „амністыі для палітычных вязьняў“ ППС ізноў-жа „трэбуе“— ад самага п. міністра справядлівасьці—Мэйштовіча!

У канцы—ясна-ж—не абыйшлося бяз „кветак загранічна-палітычнага розуму“ пэпэсаўскіх. „дыпляматаў“—Жэнэўскага Пратаколу, „Лёкарна“ і т. п...

Гумарыстычна і характэрна для „адналітасьці“ партыі, што Рада добра „ўсыпала“ паном рэдактарам „Роботніка“ за дасьціпную карыкатуру, зьмешчаную ў газэце, прызнаўшы яе — „не на месцы“ („неўласьцівай“). Карыкатура ў першай часьці прадстаўляе Язэпа Пілсудскага з даўных часоў, як правадыра пэпэсаўскіх баёвак, кансьпіратыўнага (тайнага) друкара і разношчыка забароненай уладай „антыпаньствовай бібулы“ (—„камуністычнай“ з пункту гледжаньня тадышняга ўраду!); другая частка карыкатуры — гэта маршалак і прэм'ер Пілсудскі ў магнацкай старапольскай вопратцы, а па бакох — так-жа адзетыя і абыймаючыя яго два манархісты-абшарнікі, якіх ён паклікаў, як сваіх „асабістых прыяцеляў“, да свайго ўраду (Мэйштовіч, Незабытоўскі)... Запраўды-ж, гэткая карыкатура — „неўласьцівая“ з пункту гледжаньня... шчырага „польскага сацыялізму“, асабліва, калі адзін з прадстаўнікоў апошняга нявідочна нарысаваны—на тэй-жа карыкатуры, — схаваны ў кішані аднаго з трох абнятых магнатаў...

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

## У Польшчы.

### Марш. Пілсудскі ў гасьцях у Радзівілла.

У мінулую нядзелю марш. Пілсудскі гасьціў у Нясьвіжы—рэзыдэнцыі князёў Радзівіллаў. Разам з ім паехалі ў госьці да польскіх магнатаў і міністры-манархісты — Мэйштовіч з Незабытоўскі, ды прадстаўнік правіцы ў урадзе — мін. Ромоцкі. Ведама, туды ж зьляцеліся ўсе выдатнейшыя манархісты, прыдаючы гэтай візыце вялікую палітычную вагу.

Афіцыяльнай мэтай прыезду галавы Польскага ўраду ў Нясьвіж было жаданьне асабіста ўзлажыць ордэр на труну кн. Станіслава Радзівілла, б. ад'ютанта марш. Пілсудскага, забітага ў 1920 годзе.

### Дзень склiканьня Сойму.

На канфэрэнцыі прэм. Пілсудскага з старшынёй Сойму Ратаем было пастаноўлена, што 29 будзе выданы дэкрэт прэзыдэнта, аб скліканьні Сойму на 30 кастрычніка, калі і распачнецца бюджэтная праца Сойму.

### 1.400 інтэрпэляцыяў без адказу.

У прэзыдыуме рады міністраў сабралася каля 1.400 дэпутатскіх інтэрпэляцыяў, якія не атрымалі ніякага адказу. Большая частка інтэрпэляцыяў пададзена ў прэзыдыум рады міністраў дэпутатамі нацыянальных меншасьцяў.

### Нота польскага ўраду—Радам.

23/X (ці назаўтрае пасьля паседжаньня Рады Паслоў у гэтай справе...) польскі ўрад выслаў

# ХРОНІКА.

**Арышт Сымона Макуліка, былога рэдактара „Беларускай Справы“.** 21/X г. г. быў пaклікaны на дапрос у м. Крынкі грам. Сымон Макулік, быўшы рэдактар „Беларускай Справы“, а цяпер давераная асоба Бел. Сялян.-Работ. Грамады, і пасьля дапросу быў арыштаваны і адасланы ў Горадню ў вастрог. Арыштаваньне грам. Макуліка быццам лучыцца з канфіскацыяй рэдагаваных ім газэтаў. За звальненьне да суду судовыя ўлады вымагаюць 12 тыс. зл. каўцыі, што зусім непасільна арыштаванаму.

Гэтае непамернае вымаганьне непасільнай каўцыі выразна тлумачыць імкненьне гэтай улады замкнуць у вастрог беларускую вясковую інтэлігенцыю, падобную грам. С. Макуліку.

У гэтай справе паслы з Белар. Сялян.-Работ. Грамады сьпешна зрабілі інтэрвэнцыю да судовай улады ў Горадні, каб звольніць грам. Макуліка і злажылі інтэрпэляцыю ў Сойме ў справе вымаганьня непамернай каўцыі.

**Папулярныя лекцыі.** Таварыства Беларускае Школы ладзіць—пачынаючы ад гэтае нядзелі—цыкль папулярных лекцыяў для шырокіх колаў грамадзянства — з вольным і бясплатым уваходам. Прачытаць лекцыі з розных галін беларусазнаўства і агульных прадметаў згадзіўся цэлы рад беларускіх культурных працаўнікоў. Першая лекцыя аб беларускай мове і яе месцы сярод другіх славянскіх моваў будзе прачытана адначасна ў двух мясцох грамадзянамі: Янкай Станкевічам і Ів. Савіцкім.

Таварыства праектуе ладзіць лекцыі акуратна ў кожную нядзелю.

**У Бел. Выдав. Т-ве.** У суботу, 23 кастрычніка, адбыўся агульны сход сяброў Беларускага Выдавецкага Т-ва ў Вільні. З агульнае лічбы 29 сяброў на сход сабралася 18—больш, чым вымаганая статутам дзеля правамочнасьці лічба (палова пражываючых у Вільні сяброў). Сход адчыніў старшыня ўраду Т-ва грам. Луцкевіч. Старшынстваваў на сходзе сэнатар А. Уласаў, за сэкрэтара быў І. Дварчанін.

З справаздачы ўраду выясьнілася, што грашовыя абароты Т-ва былі дужа малыя, аднак — дзякуючы пакладзеным паадзінокімі асобамі і ўстановамі коштам — за час справаздачы выданы друкам 22 кніжкі, якія і павялічылі маемасьць Т-ва ў тавары. Паміж іншым, у дакладзе было адзначана, што Т-ва мела вялікую матэрыяльную страту з прычыны нясумленнасьці былага кнігара Т-ва Станіслава Станкевіча, які прысвоіў сабе незаконна памяшчэньне кнігарні Т-ва пры Завальнай вул. № 7. Урад, ратуючы маемасьць Т-ва з рук нясумленнага працаўніка, быў прымушаны наняць сабе новае памяшчэньне (Вострабрамская № 1) і перавезьці туды ўсё тое, што ўдалося ўратаваць.

Агульны сход—пасьля гарачае дыскусіі—даклад ўраду і рэвіз. камісіі зацьвярдзіў, высказаў падзяку тым сябром Т-ва, якія сваей працай і энэргіяй памаглі ратаваць грамадзкае дабро, а Станіслава Станкевіча — за ўчыненую Т-ву шкоду—згодна з § 10 статуту—тайным галасаваньнем аднагалосна выключыў з ліку сяброў Т-ва.

У канцы адбыліся выбары новага ўраду Т-ва і рэвізыйнае камісіі. У склад новага ўраду увайшлі: А. Трэпка, А. Луцкевіч, Р. Астроўскі, І. Дварчанін і Грышкевіч.

**Агульны Сход Беларускага Навуковага Т-ва.** У той-жа дзень адбыўся і агульны сход сяброў Беларускага Навуковага Т-ва—пад старшынствам Ул. Самойлы пры сэкрэтару І. Савіцкім. Сход распачаўся справаздачай старшыні ўраду Т-ва А. Луцкевіча, які здаў справу з працы над папаўненьнем музэю Т-ва ім. Ів. Луцкевіча памяткамі старасьвеччыны, дужа цэннымі для гісторыі беларускае старое культуры, — а таксама зрабіў падробны даклад аб грашовай гаспадарцы Т-ва. Ад імя рэвізыйнае камісіі выступіў Р. Астроўскі, які, паміж іншым, падробна выясьніў справу пазыкі, зробленае з сум Т-ва Віл. Бел. Гімназіі. Зацьвердзіўшы справаздачу ўраду і рэв. камісіі, сход пастанавіў даручыць ураду спагнаць з Гімназіі доўг часткамі—бяз ніякіх працэнтаў.

Сход, згодна з зацьверджаным уладамі статутам, давыбраў двух сяброў ураду замест аднаго, выбыўшага па жэрабю, давёўшы гэтак лічбу сяброў ураду да вымаганае новым статутам лічбы шасьцёх (замест ранейшых пяцёх). Выбранымі аказаліся: Ул. Самойла і Ів. Савіцкі. За кандыдатаў выбраны: Дварчанін, Заморын, Паўловіч.

У склад рэвізыйнае камісіі ўвайшлі: Пяткевіч, Астроўскі і Грышкевіч. як сябры, Уласаў і Янка Станкевіч—як кандытаты.

У справе спагону сяброўскіх складах сход даручыў ўраду спагнаць да новага году па пяць злотых з кожнага сябра Т-ва.

**З выдавецкае нівы.** Выйшла з друку ў новым выданьні школьная кніжка „Родны Край“ Гарэцкай—I частка,—выданьне Белар. Выдавецкага Т-ва.

**Вулічны збор.** 21-га кастрычніка 1925 году ў Глыбокім адбыўся вулічны збор на беларускае школьніцтва. Сабрана ўсяго 138 зл. 47 гр. і 25 кап. серабром, якія і запісаны на прыход Т-ва Бел. Школы.

Усім, прыняўшым учасьце ў зборцы, а таксама і злажыўшым ахвяры на карысьць роднае школы, Глыбоцкая Акружная Управа высказвае шчырую падзяку.

Вялікае беларускае „дзякуй“ і тым, што адгукнуліся на прызыў і прыслалі грошы на будоўлю гімназіі ў Глыбокім: Пінскаму аддзелу Бел. Каап. Банку за—10 зл. Грам. Антосю Крышалавічу з Лап за—2 зл. Грам. Зьмітру Хахолку за—4 зл. **Управа.**

**Падзяка.** Глыбоцкая Акружная Управа Т-ва Беларускае Школы шчыра дзякуе за ахвяры на будоўлю Гімназіі ў Глыбокім, якія паступілі ад наступных: ад Беларускага Нацыянальнага Саюзу ў Чыкаго—25 даляраў, ад нашых братоў з Амэрыкі: О. Курдзёнка, М. К. Хохлуна, Ф. Міхайлоўскага, Н. Касарэўскага, Л. Ліхача, О. М. Грыдзюшкі, П. Шарабайкі—па аднаму дал. ад кожнага і Ю. Чукні—2 дал., пасла Валошына—3 даляры, гр. А. Войціка—5 злотых. **Управа.**

**Цыркуляр новага міністра ўнутраных спраў.** Новы міністар унутраных спраў ген. Славай-Складкоўскі разаслаў усім ваяводам цыркуляр, у якім даручае ім „павялічыць прадуктыўнасьць працы“ ўрадоўцаў, зьменшыць перапіску між рознымі ўстановамі, карыстаючыся для вырашэньня спраў — тэлефонам. Апрача таго, „акульнік“ радзіць рабіць часьцей зьезды старостаў, войтаў, солтысаў, паліцыянтаў і г. д. Далей „акульнік“ трэбуе ад урадоўцаў уважлівага адношаньня да інтэрэсантаў, ды аблягчэньняў пры прыманьні ад іх просьбаў, якія можна падаваць вусна, а ня толькі на пісьме. Інтэрэсант можа трэбаваць, каб сам урадовец запісаў у пратакол яго просьбу ды прачытаў яму, і гэта будзе—усё-роўна як прашэньне.

**Афіцыяльны курс грошы на 26-га кастрычніка** Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

26. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,98. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 47.

# Школьныя справы.

Карыстаючы з Закону аб шкальніцтве з 31.VII. 1924 г. і Распараджэньня Міністра Асьветы ў паразуменьні з Міністрам Унутраных Спраў з 1.VII. 1925 г.,—на ўсей Заходняй Беларусі сяляне ізноў прыступілі да складаньня дэкляpацыяў з дамаганьнем роднай беларускай школы для сваіх дзетак. Так сама, як і ў мінулым годзе ў лютым і марцы месяцах, сяляне сотнямі ідуць у гміну, каб урадова сцьвярдзіць свой подпіс на дэкляpацых, бо гэтага вымагае Распараджэньне Міністра Асьветы.

Але тут ужо ў гміне пачынаюцца тыя самыя перашкоды, якія сотнямі паўтараліся ў леташнім годзе. Дзеля розных прычын войты ў гмінах і бурмістры ў гарадзкіх магістратах адмаўляюцца сьведчыць подпісы.

На скаргі дэклярантаў і захады беларускіх дэпутатаў Сойму Міністар Унутраных Справаў 12 лютага 1925 г. выдаў загад, каб войты сцьвярджалі подпісы ды пры тым яшчэ і бясплатна. Пакуль гэты загад дайшоў да войтаў, многія сяляне не здалелі падаць ў тэрмін дэкляpацыяў.

Сёлета адны войты ўжо адмаўляюцца тым, што няма яшчэ загаду ад Старасты, другія—што ім Стараста забараніў завяраць подпісы, трэйція—што яны не прызнаюць беларускае школы, чацьвертыя вымаюць мэтрыкі на дзяцей і г. д. і г. д.

Дзесяткі скаргаў сыплюцца ў Галоўную Управу Т-ва Беларускае Школы ў Вільні на войтаў, што ня сьведчаць подпісаў.

Галоўная Управа аб гэтым падала да ведама Міністра Унутраных Спраў і просіць, каб хутчэй быў выданы сталы загад войтам сцьвярджаць подпісы, бо-ж распараджэньне Міністры Асьветы ад 7. I. 1925 г. выдана ў паразуменьні з Міністрам Унутраных Спраў, а гэта значыць, што Міністар Унутраных Спраў таксама мусіць выдаць адпаведны загад Старастам і войтам.

Галоўная Управа Таварыства Беларускае Школы заклікае ўсё грамадзянства паведамляць яе аб фактах адмовы войтаў сьведчыць подпісы дэклярантаў. Гэтакая адмова лічыцца надужыцьцем, бо не дае магчымасьці беларусам споўніць бацькаўскі абавязак на падставе закону аб шкальніцтве.

Аб гэтых фактах Галоўная Управа будзе падаваць да ведама Цэнтральнае Улады, дамагаючыся, каб вінавайцы былі пакараны.

А тым часам Галоўная Управа заклікае як можна больш падаваць дэкляpацыяў і староўча дамагацца, каб войты сцьвярджалі подпісы.

Апроч таго, Галоўная Управа яшчэ напамінае, што пры складаньні дэкляpацыяў трэба кіравацца інструкцыяй.

Як летась, так і цяпер у некаторых вёсках дэкляранты падпісваюцца дома і даюць паўнамоцніку, каб аднёс у гміну і пасьведчыў.

Гэта зусім няправільна, ды можа папсаваць справу. Падпісвацца трэба абавязкова ў гміне, бо толькі ў гэтым прыпадку дэкляpацыя будзе правамоцная.

Паўнамоцнік-жа выбіраецца ня дзеля таго, каб заверыць подпісы ў гміне, а дзеля падачы Школьнаму Інспэктару. **Галоўная Управа.**

**Увага.** Дэкляpацыі з блянкамі і інструкцыямі можна выпісваць з Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы—(Wilno, Wileńska ul. № 12).

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

У № Вашае часопісі ў перадавой стацьці было напісана, што грам. Юдзёнак выключаны з ліку сяброў „Грамады“ 8 кастрычніка. Гэта—няточна: пастанова Цэнтр. Камітэту „Грамады“ аб выключэньні Юдзёнка і трох другіх сяброў арганізацыі (Цімаховіча Антося—білет № 1664, Хоміча Лукаша—№ 73 і Ваўка Ант.—№ 567) зроблена была 27 верасьня с. г. і запісана ў пратаколе пад № 15 з таго-ж дня. **Ц. Сэкрэтарыят Б. С.-Р. Гр.**

# Карэспандэнцыі.

## Вясковая дэманстрацыя грамадаўцаў сялян.

(В. Востраво, Слонімскага павету).

Зразумелі нашы сяляне, што ў арганізаванасьці сіла, тая сіла, якая ўсё зьмятае на сваём шляху і зносіць той бруд, які, дзякуючы нашаму векавому сну, назьбіраўся ў даволі-такі значнай меры. Вось і арганізаваліся ў сваю арганізацыю—шчырую заступніцу пакрыўджаных Б. С.-Р. Гр.

Кругом, дзе ні зайдзі ў вёску, сяляне з энтузіязмам вітаюць Грамаду. Ужо няма тае вёскі, дзе ня было-б гуртка, а ня гуртка, дык сяброў, упісаных у другія гурткі. У нашай вёсцы Вострава арганізаваны гурток Б. С. Р. Грамады 11/VII с. г. і спачатку ўпісалася ў яго 19 чал., а цяпер маем 65 чал.

Пашоў адзін з сяброў у паліцыю здаваць паведамленьне на рукі каманданта ў Галынцы. Камандант ня прыняў і гэтак запяяў: „Osobiście zgłosić się do starostwa i prosić zezwolenia“! Мы паведамілі Цэнтральны Сэкрэтарыят аб гэтым. Сэкрэтарыят зрабіў навет яшчэ больш, чым вымагае закон аб палітычных партыях: паведаміў старасту аб тых гуртках, якія ёсьць у павеце, паперай пад № 2040, каб больш паліцыя не рабіла перашкодаў. Дык мы пайшлі зноў складаць паведамленьне. Камандант ізноў адмовіўся, дык паслалі пoштаю да старосты за 5 дзён да сходу.

12 верасьня, а другой гадзіне адкрылі сход пяяньнем „Ад веку мы спалі“. Старшыня гуртка разьясьніў сябром тое, як адносіцца польскі буржуазны ўрад да нацыянальных меншасьцяў, якая мэта польскага асадніцтва і крэсавае палітыкі. Усе ўважна слухалі, пасьля пастанавілі як найхучэй **злажыць паўторна дэкляpацыі на родную школу**, а пакуль дадуць яе нам, дык прылажыць усе стараньні і, з дапамогаю Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы ў Вільні, адчыніць прыватныя беларускія школы у Востраве і іншых вёсках. Пастанавілі дамагацца перавыбараў гміннае рады, а на сучасных радных налегчы, каб яны падаліся ў адстаўку, бо яны „жондзяць“ ад самага стварэньня Польшчы, ды так „жондзяць“, што пара ім ужо ў архіў. Гэта-ж рада нядаўна ўхваліла збудаваць халодніцу (вастрог) пры гміне (гэта замест школаў!). Сход закончылі пяяньнем „Ад веку мы спалі“, ды сталі расходзіцца; шмат яшчэ хто застаўся, — хацелі ўнясьці сяброўскія складкі і ахвяры на пагарэльцаў у Дзісеншчыне. Раптам улятаюць два паліцыянты з Галынскага пастарунку. Адзін з іх стаў у дзьвярох, забараніў уваход і выхад, а „застэмпца“ каманданта пан Хмелеўскі стаў правяраць білеты і карткі запросін і усіх стаў сабе сьпісваць на ліст. Калі мы сталі пратэставаць і сказалі: „няхай пан правярае, а не запісвае“, дык адказаў: „to moja rzecz“. Пасьля стаў чытаць паперу ад старосты, у якой той прыказвае разагнаць сабраньне і напамінае, што трэ прасіць дазволу, а не паведамляць, асьцерагаючы, што калі будзе гэткае здарэньне паўторна, дык намесцы арыштуе камітэт гуртка.

Сяляне бачылі і чулі гэта дый сьцямілі, што нам рабіць; а паліцыі дый ня толькі не спалохаліся, а яшчэ больш загартаваліся. У знак пратэсту проці гэтага зыйшоўшы з надворку ўся моладзь дэманстрацыйна запяяла „Ад веку мы спалі“... Дзесяткі грудзёў маладых стройна й малёдычна ў энтузіязьме запяялі марсэльезу. Жалем сэрца напоўнілася, калі дайшлі да слоў „Усюды сьмяюцца, усюды ганяюць, папросту хоць крыкні ратуй“... бо гэта, як нельга болей, падыходзіць да перажыванае намі цяпер хвіліны.

Паход гэты зрабіў велізарнае ўражаньне на сялян, якія з прычыны яснае пагоды і сходу гуртка сядзелі грамадкамі на вуліцы, вітаючы ад шчырага сэрца нашу моладзь, чакаючы нечага новага й лепшага. А сонца так яскрава кідала свае агністыя праменьні, саграваючы імі не адных паноў, а і нас, пакрыўджаных сялян.

**Вастравец.**

## „Кракаўскія ластаўкі“.

(З Горадзеншчыны).

Сёлета скончылі Беларускія Вучыцельскія Курсы ў Кракаве трое вучыцялёў з Горадзенскага павету, якія былі вызначаны на гэтыя курсы Школьным Інспэктарам.

**Першы:** В. М. вучыцель скончыў перад вайною Вучыцельскую Сэмінарыю, паходзіць з сям'і селяніна. У часе выбарнае акцыі (1922 г.) быў мужам давер'я ад № 16. Праз увесь час шчыра працаваў на ніве беларускага адраджэнскага руху і цярпеў уціск з боку паліцыі і адміністрацыі. Многа палажыў працы пры складаньні дэкляpацыяў на беларускую школу. Сваім вясковым характарам і невычарпаным юмарам ён заахвочваў нас да працы. Да яго мы зьбіраліся ў цяжкія часіны жыцьця і заўсёды выходзілі стуль вясёлыя, поўныя надзеі.

Як толькі В. М. быў вызначаны на Кракаўскія

